# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 24 (589) ГОД XII 11 ЧЭРВЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП

24 мая г.г. адбылося першае пасяджэнне новай Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Як вядома, усе камісіі ВК ПАРП назначаюцца на перыяд кадэнцыі ВК ПАРП. Аб зацвярджэнні экзекутывай ВК ПАРП новага складу Камісіі паінфармаваў кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Уладзіслаў Канстанчук.

У Камісію ўвайшлі прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад, а таксама нацыянальных арганізацый. Складаецца яна з 14 асоб. Узначаліў Камісію Збігнеў Дамброўскі — начальнік аддзела падставовых школ беластоцкай кураторыі.

Апрача арганізацыйных спраў, на пасяджэнні былі абмеркаваны: інфармацыя аб працы Нацыянальнай камісіі за мінулы перыяд, якую зрабіў намеснік кіраўніка Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Базыль Фадэньчук і інфармацыя аб дзейнасці Павятовага аддзела Украінскага грамадска-культурнага таварыства ў Банях Мазурскіх, а таксама праўленняў гурткоў Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў і Рускага таварыства, якія дзейнічаюць у Беластоку, якую зрабіў кіраўнік грамадскага аддзела УСВ Ваяводскай рады Мікалай Куц.

Пасля плённай дыскусіі Камісія паклікала са свайго складу групу таварышаў, якія падрыхтуюць план працы на будучыню. (рл)

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ

24 мая г.г. у беластоцкім Клубе міжнароднай кніжкі і друку адбылася сустрэча з членамі літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» Алесем Барскім і Віктарам Шведам.

Нашы паэты расказалі аб сваім творчым шляху і прачыталі шэраг новых вершаў. Асаблівае зацікаўленне выклікалі вершы прысвечаныя Беласточчыне. Удзельнікі сустрэчы выказвалі пажаданне, каб нашы паэты часцей сустракаліся з жыхарамі Беластока.

Цікавыя пытанні ў адрас паэтаў, а таксама жывая дыскусія, якая адбылася пасля выступлення нашых паэтаў — найлепшы доказ удачнасці вечара і патрэбы новых падобных мерапрыемстваў. (рл)






Звонка плешчуць вясной крыніцы,
Будзяць вёску маю жаўрукі.
Хай табе ў гэты момант прысніцца
Лёгкі дотык маёй рукі.
Зыркай-зыркай зара золку,
Ноч ціхутка кране крысом.
Хай табе прысніцца вясёлка
Мяккім матчыным ручніком.
Недзе там, ля зялёных плёсаў,
Светлы човен штурхае дзед.
Я бягу. Расплятаюцца косы,
Я шукаю, гукаю цябе.

*Яўгенія Янішчыц*



**БЕЛАВЕЖА. Гаспода ў Белавежскім парку.** **Фота М. Хмялеўскі**




## Пад гоман Белавежскай пушчы

У адным з вагонаў цягніка, што адправіўся 5 мая г.г. з Варшавы ў Гайнаўку, гоман, смех, вясёлыя размовы ўперамежку на беларускай і польскай мовах, беларускія, польскія, рускія і ўкраінскія песні ў выкананні прыгожых, з не менш прыгожымі галасамі дзяўчат удзельніц Варшаўскага беларуска-рускага хору — выклікаюць жывое зацікаўленне іншых пасажыраў. Студэнты і навуковыя працаўнікі Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта едуць на Гайнаўшчыну адпачыць, сустрэцца з землякамі, даследваць мясцовыя беларускія дыялекты. Шумлівая Белавежа прывітала апоўначы гасцей залівымі песнямі салаўёў. Прыемны адпачынак у драўлянай, невялічкай гасцініцы, што знаходзіцца ў парку над сажалкай, і выезд у Гайнаўку. Тут наладжана цікавую сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі Гайнаўскага беларускага ліцэя. Дырэктар А. Тропак расказала гасцям аб гісторыі ліцэя. Аб працы Кафедры беларускай філалогіі паінфармаваў выкладчык беларускай літаратуры др А. Баршчэўскі. Шмат пытанняў з боку вучняў, якія датычылі занятках на Кафедры і жыцця студэнцкай моладзі сведчыць аб зацікаўленні вучняў ліцэя гэтым напрамкам вышэйшай адукацыі ў недалёкай будучыні. На просьбу вучняў В. Швед, які вучыўся ў Гайнаўцы, прачытаў свой верш прысвечаны настаўнікам і вучням Гайнаўскага ліцэя. Надзвычай цікавай была экскурсія ў Гайнаўскае прадпрыемства драўлянай прамысловасці.

Увечары ў Доме настаўніка адбылася сустрэча з актывам Гайнаўскага аддзела БГКТ. З сардэчнай прамовай выступіў старшыня аддзела, былы студэнт і абсальвент Кафедры — мгр А. Іванюк.

У мастацкай частцы вечара выступілі: эстрадны калектыў ліцэя, жаночы хор Гайнаўскага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам В. Макаца і гасцінна — трыо студэнтак з Кафедры.

Да позніх гадзін працягвалася танцавальная вечарына. Студэнты з Варшавы навязвалі бліжэйшыя знаёмствы з мясцовай моладдзю.

Асабліва карысным было наведанне студэнтамі Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. З экспанатамі матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны пазнаёміў працаўнік музея — мгр Ул. Гацута.

Пабыўка ў белавежскім запаведніку — згодна з праграмай экскурсіі і паваротнае падарожжа ў Варшаву.

Студэнты III курса пад навуковым кіраўніцтвам др Э. Смулковай затрымаліся на двухдзённыя доследы над мясцовымі дыялектамі жыхараў Белавежы і вёскі Дубічы-Царкоўныя. Належацца тут словы шчырай падзякі прэзасу ПЗГС у Гайнаўцы К. Майсені і настаўнікам школы ў Дубічах Царкоўных за дапамогу ў правядзенні карыснай дыялекталагічнай працы. Кіраўніцтва Кафедры беларускай філалогіі складае таксама шчырую падзяку дыр. ліцэя А. Тропак і кіраўнікам Гайнаўскага аддзела БГКТ А. Іванюку і В. Буры за дасканала сарганізаваную сустрэчу.

Шырэйшыя кантакты Кафедры беларускай філалогіі з Беласточчынай неабходныя, так у галіне даследвання мясцовых гаворак, як і ў азнаямленні з багатай матэрыяльнай і духовай культурай беларускага насельніцтва.

**Віктар Швед**




## Спадчына абавязвае

У беларускім музеі ў Белавежы знаходзіцца зараз каля 350 экспанатаў.

Музей ад мінулага турысцкага сезона выклікае вялікае зацікаўленне турыстаў заграгнічных і краёвых.

Вядомыя вучоныя захапляюцца сабранымі экспанатамі і заахвочваюць да далейшай працы.

Збіраць экспанаты неабходна, таму што ў сувязі з шырока разгорнутым сялянскім будаўніцтвам і зменамі на вёсцы яны нішчацца, гінуць у хуткім тэмпе.

Галоўнае праўленне разлічвае на вялікую дапамогу сваіх членаў і сімпатыкаў прадстаўнікоў тэрэновых улад, настаўнікаў, вучняў і на ўсё насельніцтва ў гэтым цяжкім, ганаровым і неабходным заданні, мэтай якога ёсць захаванне багатай спадчыны нашага народа ў галіне матэрыяльнай культуры і народнага мастацтва.

Аб найбольш пільных патрэбах нашага музея будзем сістэматычна інфармаваць на старонках «Нівы». Адначасова будзем публікаваць спісак асоб, якія перададуць музею экспанаты. Зразумела, што публікаванья ў «Ніве» спіскі патрэбных музею прадметаў не могуць быць поўныя. І таму просім звярнуць увагу на ўсе прадметы, якія знаходзяцца пад вашай стрехой.

Хочам асабліва падкрэсліць, што публікаваныя ў «Ніве» спіскі адносяцца выключна да прадметаў самаробных, або выкананых мясцовымі рамеснікамі.

Кіраўнік культурна-асветнага Аддзела ГП БГКТ мгр. **М. Лобач**

**Сёння публікуем першы спісак патрэбных беларускаму музею экспанатаў:**

**СРОДКІ ТРАНСПАРТУ**

1. Ручныя павозкі: каляскі, тачкі і г.д.
2. Павозкі да катання малых дзяцей;
3. Прылады да тармажэння пры спуску воза з гары;
4. Карзіны на павозку: кельні, палукашкі;
5. Сані, санкі, шыткі.
6. Лыжы (нарты), канькі;
7. Пугі, бізуны, бічы і г.д.;
8. Уздзечкі, хамуты, сядзёлкі і іншая вупраж;
9. Вупраж (збруя) на вала;
10. Рачныя сродкі транспарту: човен, лодка.

Прадметы да музея знойдзеныя ў сваіх вёсках і ваколіцы просім перадаваць у школы. Настаўнікаў просім паведамляць аб знаходках па адрасу: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.

**УВАГА, НАСТАЎНІКІ І ВУЧНІ!**

## Навуковая дапамога на 1967/68 гады

Ідучы насустрач патрабаванням школ, ад верасня г. г. „Ніва", як і ў гэтым годзе, будзе друкаваць дапаможныя школьныя матэрыялы. Гэтым разам будуць гэта чытанкі з беларускай літаратуры для VI класа (новы, падрыхтаваны да друку падручнік) і матэрыялы да навучання роднай гісторыі для IV, V, VI, VII і VIII класаў. Тэмы будуць распрацаваны згодна з загадам міністра асветы з дня 23. XII. 1966 (загад друкаваўся ў „Ніве").

З увагі на важнасць матэрыялу (з іншых крыніц здабыць яго будзе нельга), усе вучні павінны загадзя зрабіць падпіску на „Ніву". Найлепш не спыняць падпіскі ў летнія месяцы.

У першым верасьнёўскім нумары, пачынаючы друк вышэй успомненых матэрыялаў, змесцім таксама план на цэлы квартал.

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

### ВАЙНА НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

Калі аддаем наш нумар да друку, вайна між Ізраілем і Егіптам з'яўляецца фактам. Галоўнае камандванне ўзброеных сіл ААР паінфармавала, што 5 чэрвеня ў 5 гадзін раніцы Ізраіль пачаў агрэсію супроць Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі.

Першыя тэлеграмы перадаюць на колькі крывадушнымі былі нібы мірныя прапановы ў справе канфлікту на Блізкім Усходзе з боку ЗША і Англіі. Размовы праведзеныя між Джонсанам і Вільсанам сведчаць аб тым, што яны яўна папіраюць агрэсію Ізраіля супраць арабскіх краін. Наяўным фактам шантажу з боку англа-амерыканцаў з'яўляюцца перагрупоўкі флотаў, якія знаходзяцца ў гэтым раёне.

Сацыялістычныя краіны, у тым і Польшча, заявілі, што яны абсуджаюць агрэсіўную палітыку Ізраіля і імперыялістычных краін у адносінах да арабскіх народаў. Савецкі Саюз у спецыяльнай заяве востра абсуджаючы агрэсію і англа-амерыканскіх імперыялістаў перасцярог, што абумоўлівае сабе права падняць адпаведныя сродкі ў справе абароны незалежнасці арабскіх краін.

Але ў блізка-ўсходнім канфлікце назіраліся пэўныя сенсацыі. Найвялікшай з іх — гэта падпісанне дагавору між Егіптам і Іарданіяй. Гэткага дагавору ніхто не спадзяваўся, таму што паміж гэтымі дзвюма дзяржавамі былі споры, якіх здавалася б не дасца пераадолець, а з другога боку Іарданія з'яўляецца ў зоне амерыканска-англійскіх уплываў. Зрэшты, увесь арабскі свет дасканала адчуў манеўры імперыялістаў, і не гледзячы на споры паміж сабой моцна скансалідаваўся.

### НЕБЯСПЕЧНАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Амерыканскія агрэсары ў мінулым тыдні дапусціліся новай правакацыі ва В'етнаме. **Два самалёты ЗША збамбілі савецкае судна «Туркестан»,** якое стала на рэйдзе паўночнав'етнамскага парта. Электрамеханік судна Рыбачук памёр, іншы матрос цяжка ранены.

Савецкі ўрад накіраваў ураду ЗША ноту, у якой катэгарычна дамагаецца пакарання віноўнікаў і перасцерагае правакатараў, каб здалі сабе справу з павагі сітуацыі і што гэта можа прывесці да дрэнных вынікаў.

Хочацца дадаць, што новая імперыялістычная правакацыя дэманструе ілжывасць і крывадушнасць тых у ЗША, якія распраўляюць аб шуканні амерыканцамі дарог мірнага пагаднення ва В'етнаме.

### СССР — ЗША

**Прамысловая** прадукцыя Савецкага Саюза ў 1966 годзе, у адносінах да амерыканскай, выносіла нешта больш чым 65%. Дзесяць год таму гэтая прапорцыя выносіла 47%. **Сельскагаспадарчая** прадукцыя вынесла каля 85% амерыканскай. **Нацыянальны** даход Савецкага Саюза ў 1965 г. дасягнуў узравень 62% у параўнанні з ЗША.

**А. К.**

# БССР

### МЕНСК

Гэта старажытная назва Мінска. Беларусь надзвычай урачыста святкуе 900-годдзе сваёй сталіцы. Цэнтральная беларуская газета «Звязда» змясціла артыкул пад загалоўкам: **«Дарагая мая сталіца».** Пачынаецца ён ад слоў:

«Мінск. Сёння табе 900! Ты прайшоў вялікую дарогу. Зведаў ты на сваім шляху набыткі і нястачу, радасць і гора, перамогі і адступленні...»

Настаўнік М. Застольскі з казахстанскай зямлі так піша ў пісьме ў рэдакцыю: — Мы ганарымся Беларуссю, яе сталіцай Мінскам...

Юбілей Мінска, гэта падзея нумар 1 у грамадскім і палітычным жыцці Беларусі. 26 мая адбылося ў Мінску ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 900-годдзю горада. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі, П. Машэраў, зачытаў прывітанні ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі і Савета Міністраў БССР — працоўным горада Мінска, гарадскому савету дэпутатаў працоўных і Мінскаму гаркому КПБ.

У Мінск з'ехаліся шматлікія дэлегацыі гарадоў Савецкага Саюза і з заграніцы — між іншымі, дэлегацыя **Варшавы.**

### ПРЭМІІ

Апрача існуючых Дзяржаўных прэмій БССР за выдатныя творы літаратуры, мастацтва і выканаўчае майстэрства, Савет Міністраў БССР устанавіў яшчэ адну — Дзяржаўную прэмію БССР імя П. М. Лепяшынскага за працы ў галіне журналістыкі.

Прадстаўляць аўтараў прац на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР маюць права не толькі зацікаўленыя ўстановы ўсіх шчэбеняў, **але таксама агульныя сходы працоўных.**

Нельга прадстаўляць на атрыманне прэміі тых прац, якія былі ўжо ўзнагароджаны іншымі прэміямі СССР ці саюзных рэспублік. Вартасць прэміі дзве з паловаю тысяч руб.

### ОРДЭН

Інстытут фізікі Беларускай Акадэміі навук узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Інстытут фізікі арганізаваны ў 1955 годзе. За гэты часператварыўся ён у буйны цэнтр падрыхтоўкі навуковых кадраў і з'яўляецца цяпер адным з вядучых навуковых цэнтраў у Саюзе ССР у галіне спектраскопіі і люмінесцэнцыі, адзіным у цэлым спецыялізаваным інстытутам гэтага профілю.

Ва ўрачыстасці ўручэння ордэна інстытуту ўдзельнічаў сакратар беларускай кампартыі Д. Філімонаў.

### ГРОДЗЕНСКАГА

Адбыўся пленум Гродзенскага абласнога камітэта КП Беларусі, на якім ішла размова аб вучобе камуністаў, іх ідэйнай загартоўцы, аб узмацненні палітычнай работы сярод насельніцтва.

Даклад на пленуме меў сакратар Абласнога камітэта КПБ, **А. Ульяновіч.**

(С. Я.)

# ПОЛЬШЧА

### З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ

2 і 3 чэрвеня адбыўся ў Кашаліне XVI з'езд Саюза польскіх пісьменнікаў. З прамовай выступілі: Яраслаў Івашкевіч і Антоні Ольха. Антоні Ольха ў сваім дакладзе пад загалоўкам «Літаратура а паўсюднасць культуры» сказаў між іншым:

«Грамадскі культурна-мастацкі рух перастаў ужо выконваць толькі функцыі распаўсюджвання, функцыі асветна-выхаваўчыя. Сённяшні аматарскі тэатральны рух падымае творчую дыскусію з элітарным тэатрам. У найлепшых студэнцкіх, рабочых і сялянскіх аматарскіх гуртках падымаюцца новыя рэалізацыі тых п'ес, якія ставяць прафесіянальныя тэатры, рэалізацыі, якія з'яўляюцца спробаю ўласнай інтэрпрэтацыі класічных і сучасных твораў».

### АБАВЯЗАК УГНАЕННЯ

Сеймавая Камісія сельскай гаспадаркі і харчавой прамысловасці разгледзела і прыняла ўрадавы праект пастановы аб абавязку прымянення ў сельскай гаспадарцы штучных угнаенняў. Праект датычыць гаспадарак тыповых, не датычыць тымчасам гаспадарак карлікаватых і занядбаных. Усталеныя будуць раёны, у якіх абавязваць будзе прымянянне мінімальных дозаў штучных угнаенняў. Дозы вызначаныя будуць прэзідыумамі ВРН на аснове прапаноў прэзідыумаў ПРН.

### ХАЛАДЗІЛЬНІКІ

У гэтым годзе Польшча выэкспартуе каля 70 тысяч халадзільнікаў, гэта значыць у два разы больш, чымсьці ў мінулым годзе. Купцамі польскіх халадзільнікаў з'яўляюцца, між іншым, Заходняя Германія і Англія. У Англіі малыя хатнія халадзільнікі нашай прадукцыі выкарыстоўваюцца перад усім да абсталявання кэмпінгавых домікаў.

### У СТРАТАСФЕРЫ

У красавіку і сакавіку гэтага года 20 польскіх метааралагічных ракет« Метэор - 1» выстартавала ў стратасферу ў раёне Усткі. Такім чынам закончана цыкл доследаў стратасферы, якія праводзіць Дзяржаўны Гідралагічна-метэаралагічны інстытут. У выніку гэтых доследаў сцверджана, што над краінаю на вялікіх вышынях веюць ветры з захаду на ўсход і наадварот. Змены напрамку ветру адбываюцца толькі два разы ў год і звязаны з пераходам паміж асенне-зімовым і вясенне-летнім перыядамі.

### ТЭЛЕКАМУНІКАЦЫЙНЫЯ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ

Навуковыя працаўнікі Вайсковай акадэміі тэхнічнай і Палітэхнікі варшаўскай вядуць інтэнсіўныя доследы над выкарыстаннем вязкі светавых праменняў для пераказвання радыёвых і тэлевізійных інфармацый. Развязала б гэта праблему «натоўпу ў эфіры», таму што пры дапамозе адной вязкі праменняў можна адначасова надаваць каля 1 мільёна тэлевізійных праграм або сотні тысяч тэлефанічных размоў. (п)

# ВАЯВОДСТВА

### З БЕЛАРУСІ

Наведала Беласток дзесяціасабовая група спецыялістаў па меліярацыі з Беларусі, на чале з віцэ-міністрам Меліярацыі і воднай гаспадаркі Беларускай ССР, **Анатолем Беляевым.** Беларускіх гасцей прыняў старшыня Ваяводскай рады, Стэфан Жмійка. Затым адбылася сустрэча з сельскагаспадарчымі спецыялістамі Беласточчыны, у якой удзельнічаў віцэ-міністр сельскай гаспадаркі ПНР, **Ежы Попка.**

Віцэ-міністр **Попка** пазнаёміў беларускіх гасцей з галоўнымі праблемамі сельскай гаспадаркі ў Польшчы. Віцэ-міністр **Беляеў** расказаў аб дасягненнях у меліярацыйнай гаспадарцы на Беларусі.

Затым госці з Беларусі наведалі меліярацыйныя аб'екты на Візне, Бобры і Кувасах.

### ДЗІЦЯЧЫ

Міжнародны дзіцячы дзень адбыўся ў настроі мілых мерапрыемстваў, якія арганізоўвалі бацькі сваім пацехам. У Лапах бацькі падрыхтавалі дзецям два пляцы для забаў і дзіцячую святліцу. У Беластоку пры вуліцы Складоўскай бацькі ўпарадкавалі панадворкі і са складчын закупілі шугалкі, столікі да гульняў і іншыя прылады да гульняў на панадворку.

Адбываліся вялікія балі дзяцей — пры аранжадзе, «лёдах», цукерках і іншых ласунках.

### ГАРЦЭРЫ

Гарцэры Беластоцкага ваяводства ўжо трэці раз **занялі першае месца ў Польшчы** ў час алерту ЗГП.

У ваяводстве найлепш паказалі сябе ў час гарцэрскага алерту дзяўчынкі і хлопчыкі з Сейненскага павета.

### СОМ

У Тыкаціне на Нарве рыбак-аматар злавіў на вуду вялізнага сома, даўжынёю 152 сантыметры. Вага гэтага сома — 22 кг.

### ЗАБОЙЦА

31 мая Ваяводскі суд у Беластоку аб'явіў прысуд у справе 21-гадовага Ежы Лося, які два месяцы таму назад забіў 73-гадовага Юзэфа Цывіньскага, крадучы яму каля сямі тысяч злотых, залатую пятнаццацірублёўку, гадзіннік і некалькі дробных рэчаў.

Забойца-рабаўнік Ежы Лось **засуджаны на пакаранне СМЕРЦЮ.**

Апрача гэтай справы Ежы Лось будзе яшчэ суджаны за кражу ў Беластоцкім МПК.

### САБАЧЫ

У Беластоцкім кіно ТПП-Р амаль паўтара месяца быў дэманстраваны — па тры разы ў дзень — славуты італьянскі фільмовы рэпартаж Якабэцяга — «Сабачы свет». Адміністрацыя кіно тры разы спрабавала ўвесці новы фільм, аднак на просьбу публікі «Сабачы свет» дэманстраваўся надалей.

Якабэці аб'ехаў увесь свет, фільмуючы розныя дзікасці і подласці людскога жыцця. (ся)




**Niedziela 11.VI.**

8.15 Politechnika TV. 9. 55 Transmisja z uroczystości otwarcia Międzynarodowych Targów Poznańskich. 10.30 Program filmowy. 11.10 PKF. 11.30 Film. 12.00 Dziennik. 12.10 „Powodzenia, chłopcze" — film fab. jugosł. 13.30 Koncert Laureatów Ogólnopolskiego Festiwalu Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze. 14.00 „Przemiany". 14.30 Program filmowy. 15.20 „Emigrant" — rep. film. 15.40 Szczeciński Teatr TV: M. Borzymiński „Morska Nawigacja do Lubeka". 16.30 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu lekkoatletycznego NRD — ZSRR (Jena). 17.30 „Polacy na morzach świata" — teleturniej. 18.30 „Spotkanie z pisarzem" — Henryk Worcell. 18.55 „Słownik wyrazów obcych". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kuchenny walc" — kabaret. 20.45 „Kombinatorzy" — film fab. franc. 22.00 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 12.VI.**

17.00 Dziennik. 17.10 „Przygody Gapiszona" — film. 17.20 Dla młodych widzów: „Wiem jak fotografować latem", odc. II. 17.45 „Azymut" — „U marynarzy". 18.25 „Eureka". 18.55 „Charros — meksykańscy jeźdźcy" — film dok. franc. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Kino Krótkich Filmów. 21.05 Teatr TV: T. Różewicz „Kartoteka". 22.45 „Na półkach księgarskich". 22.55 Dziennik.

**Wtorek 13.VI.**

9.55 „O moim przyjacielu" — film fab. radz. 12.30 „Przysposobienie Rolnicze" — „Zbiór zbóż wiązałkami". 15.20 „Przysposobienie Rolnicze": — „Zbiór zbóż wiązałkami". 16.00 Politechnika TV. 17.00 Dziennik. 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.20 Dla młodych widzów: „Latający Holender" — transmisja z pokładu żaglowca „Zawisza Czarny". 18.00 „Wiem wszystko" — teleturniej. 18.30 „Próby". 18.55 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Piękny Serge" — film fab. franc. 21.40 „Panorama Literacka". 22.20 Dziennik. 22.40 Politechnika TV.

**Środa 14.VI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „W Komitecie Miejskim PZPR". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Zapis dźwięku". 11.30 „Spotkanie na przeprawie" — film radz. 16.20 „Przypominamy, radzimy" — „Pielęgnacja ziemniaków". 16.30 PKF. 16.40 „W każdą niedzielę" — film TV pol. 16.55 Dziennik. 17.00 „Klub Pancernych". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 Wszechnica TV: „Pejzaż: miasto" („Jak patrzeć na dzieło sztuki"). 18.20 „Aforyzmy, apostrofy, autografy". 18.50 „Z Merkurym na Ty". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Tańce i piosenki Kantonu Valais" — film tv szwajc. 20.20 „Spotkanie na przeprawie" — film fab. radz. 21.10 „Światowid". 21.40 Mały Teatr TV: „Czarowna noc" — dramat S. Mrożka. 22.35 Dziennik.

**Czwartek 15.VI.**

16.55 Dziennik. 17.00 Kino Ptyś. 17.20 Dla młodych widzów: „Wiem jak fotografować latem" odc. III. 17.40 „Na zdrowie". 18.10 „Jazz w Filharmonii". 18.30 „Czwarta zmiana". 19.00 „Pod żaglami Zawiszy" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „W cieniu podejrzenia" — film fab. USA. 21.50 „Refleksje". 22.20 „Kronika Kulturalna". 22.40 Dziennik.

**Piątek 16.VI.**

10.25 „Czerwony atrament" — film fab. węg. 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Jak byś postąpił". 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Lis Chytrusek" — film pol. 17.10 „Róża Meksyku" z serii „Za siedmioma górami". 17.40 „Wielokropek". 18.00 Telekram. 18.15 Reportaż z Pawilonu Radzieckiego na Międzynarodowych Targach Poznańskich. 18.50 Wszechnica TV: Reportaż z Instytutu Mechanizacji i Elektryfikacji Rolnictwa. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 TV Kurier Mazowiecki. 20.20 Teatr TV: A. France „Tais". 21.40 „Rozmowy o książkach". 21.55 „Pod kloszem" — program Red. Młodzieżowej. 22.25 Dziennik.

**Sobota 17.VI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Biologia — „Rośliny chronione". 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Zimno — ciepło — gorąco". 11.30 „Tata, mama, córka i zięć" — film fab. radz. 16.10 Program tygodnia. 16.30 Dla nauczycieli: „Tradycje w rodzinie". 16.50 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: Teatrzyk Kieszonkowy. 17.20 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów" — finał rozgrywek w roku 1966/67. 18.20 „Po szóstej". 19.00 „Gawędy wilków morskich". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 „Dzień bez daty" — film radz. 20.30 Dziennik. 20.45 Wiadomości sportowe. 21.00 „Festiwal Złotego Kluczyka" — międzynarodowy konkurs piosenki krajów Interwizji (Bratysława). 22.30 „Miłość blondynki" — film fab. CSRS.




**9 czerwca**

9.00 Dziennik. 9.30 Dla uczniów. 10.00 Tydzień Gruzińskiej SRR w Moskwie. 14.25 Program. 14.30 Program poświęcony pamięci poety Mikołaja Majorowa. 15.00 Tydzień Gruzińskiej SRR w Moskwie. 18.00 Sztafeta nowin. 18.50 Śpiewa zespół „Mińszczanka". 19.20 „Liebiediew przeciwko Liebiediewowi". Film. 20.50 Dekada uzbeckiej literatury w BSRR.

**10 czerwca**

12.25 Program. 12.30 Koncert dla dzieci. 13.00 Dla uczniów. 14.00 Program z Taszkientu. 14.30 Tydzień Gruzińskiej SRR w Moskwie. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Dekada uzbeckiej literatury i sztuki w BSRR. Koncert galowy. 19.30 „Wanino Wanini". Film TV. 21.15 Moskiewski międzynarodowy turniej szachowy.

**11 czerwca**

7.55 Program. 8.00 Gimnastyka. 8.30 Dla przedszkolaków. 9.00 Dla uczniów. 9.45 Przedmieścia Leningradu. 10.15 „Więcej towarów dobrych i różnych". 10.45 Szkatułka muzyczna. 11.00 Tydzień Gruzińskiej SRR w Moskwie. 12.00 „Bojowe karty historii Białoruskiego okręgu wojskowego". 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 „Święto pieśni i pracy". Program z Brześcia. 13.50 „Odsłonięta kurtyna". Film dokumentalny. 14.50 „Białoruś ojczysta". 15.30 „Koło diabelskie". Film. 16.55 Mistrzostwa piłkarskie Europy. ZSRR—Austria. 18.45 Tydzień Gruzińskiej SRR w Moskwie. 20.00 Program poświęcony pracownikom przemysłu lekkiego. 21.10 Moskiewski międzynarodowy turniej szachowy.



Вакальная Гайнаўская група пад кіраўніцтвам Віталія Макаца з гармонікам.

# НА ВАКАНДЗЕ: БЕЛАРУСКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ



Прайшоў год, і на сцэне ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай у Беластоку зноў сустрэліся мы з найлепшымі мастацкімі самадзейнымі калектывамі з беларускім рэпертуарам.

А былі гэта: АЎГУСТОВА, ВІЛІНАВА, ГАЙНАЎКА, ПІРАЖКІ. З Гайнаўкі пачулі толькі вельмі прыемную вакальную частку праграмы калектыву. П'еса не ставілася, бо якраз незадоўга да агляду нешта сталася з адным акцёрам. Адзін чалавек — і ўжо нічога з п'есы не выйшла. Шкада! Бо ходзяць слухі, што і драмгуртох гарадскога гуртка БГКТ у Гайнаўцы, так як і вакальная група, вельмі добры.

Няхай самі гайнавяне распраўляюцца са сваім падводным членам, я пішу, што было. Вакальнай гайнаўскай групе можна варажыць добрую дарогу ў будучыню.

Дасканала чуецца на сцэне і цудоўна гаворыць па-беларуску канферансье Гайнаўкі Сяргей Сац, а гарманіст і кіраўнік Віталі Макац радасць родзіць ігрой, свабодай і ўсмешкай. Гайнаўскі гуртох упершыню выйграў бой да ваяводскай сцэны і ў праграме меў п'есу Алеся Барскага «Гарадскія госці».

«Гарадскіх гасцей» паказала таксама Аўгустова з Бельскага павета — новы, дынамічны драмгурток, які працуе пад кіраўніцтвам Васіля Кардзюкевіча, мясцовага кіраўніка школы. Па-за праграмай Аўгустова дало п'есу Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка» — вёрткую, звычаёвую карцінку з сучаснага жыцця.

Аўгустова, паказваючы свае сцэнічныя поспехі, паказала пры гэтым вялікую групу сваіх цікавых людзей — старэйшых і моладзі.

Дасканалыя тут сілы і выдатныя таленты: Рыгор Кардзюкевіч, Вера Вышкоўская, Юлія Анацік, Іван Заброцкі —людзі з аграмадным чуццём сцэны.

Васіль Кардзюкевіч казаў мне, што яны — яго артысты, моцна нерваваліся, што звычайна выходзіць лепш, але ведаем усе, што абыякавы чалавек на сцэну не надаецца.

Аўгустоўскі драмгурток выклікаў у нас уражанне размахам, веліччу, багаццем праграмы, добрай мовай і ўвогуле прыгнятаў сваёй індывідуальнасцю.

Піражкі таксама выступілі ўпершыню. Прэзентаваліся скромней ад Аўгустова, але дакладней. Далі «Зямлю» — п'есу Юркі Геніуша (з аб'яднання «Белавежа»). Паставілі Піражкі п'есу амаль дасканала. Чыста і вельмі свабодна, натуральна. Паказалі сваю ўмеласць працаваць з вялікім разуменнем сцэны, зместу і сучаснага жыцця вёскі (п'еса трактуе таксама аб сучаснай вёсцы).

Вілінава было значна слабейшае ад рэшты. Ставіла п'есу Нэлы Кліменка «На гарадской ускраіне». Прабавалі вілінаўцы акцыю яе перанесці на ўскраіну Беластока, але тым дзіўней у такім кантэксце гучэлі іншыя справы зусім для Беластока і беластоцкай акраіны нетыповыя і непрыдатныя.

Трэба сказаць урэшце тое, што сказаць хацела адразу адносна агляду 1967 года. На пяць прадстаўленых п'ес (улічваючы не стаўленую ў Беластоку п'есу Гайнаўскую), чатыры былі п'есамі нашымі, нашых беларускіх аўтараў у Польшчы, зроджаныя з нашага жыцця, нашай тэмы, нашых праблем. Ужо гэта самое было і ёсць лепшым ад розных запазычаных п'ес. Але і сапраўды нашы п'есы лепшыя ад многіх замежных, а ўжо раўняць не хачу іх да розных там «Мікітавых лапцяў», «Ботаў», «Пярэстых красуль» і г.д.



Піражкі. Кадр з п'есы «Зямля» Юркі Геніуша.



Вілінава. Кадр з п'есы «На гарадской ускраіне».

Дзякуй Богу, скончылася панаванне ўстарэлых дурнаватых п'ес і выходзіць новы перыяд з новымі п'есамі, новымі пошукамі ў аматарскім драматычным беларускім руху. Нібы ясна, а скажу, што гэты перыяд перад нашымі аўтарамі, нашымі пісьменнікамі з людьнага аб'яднання «Белавежы» ставіць заданні вельмі вялікія.

Бачым навочна і навушна карысці з творчасці ўласнай. А затым: пісаць, пісаць, пісаць! З рэпертуарам усё яшчэ кепска, усё яшчэ мала, усё яшчэ трэба!

Сказаць хачу і аб другой рэчы пару слоў: мове аматараў. Радасна было чуць добрую беларускую мову са сцэны. Тут заслуга аграмадная і кіраўнікоў, якія на вымаўленне слоў звяртаюць цяпер таксама вялікую ўвагу, як і на ігру.

У далейшым не існуе сцэнаграфія і характарызацыя. Піражкі прабавалі ўхарактарызавацца (слава ім за адвагу і пошукі), але не было гэта ўдачным. Неадлучным элементам сцэнаграфіі ў кожнай п'есе з'яўляецца стол і крэсла, а характарызацыі — насунутая на вочы хустка і доўгая спадніца. Чаму. Рэч жа дзеецца цяпер, зараз, у 1967 годзе! Хто цяпер носіць насунутую хустку (калі ўвогуле яе носіць)? Хто носіць у наш век міні-спаднічак, такія максі-спадніцы па косткі. Давайце ногі, давайце вочы, давайце валасы на паказ гледачам!

*Вера Леўчук*

*фота С. Грынявіцкі*



Аўгустова. «Конская кніжка» Уладзіміра Паўлючука.



Аўгустова. «Гарадскія госці» Алеся Барскага.

УВАГА, БЕЛАСТАЧАНЕ!

# Шукаем цётку Лізу (Эльжбету)

Яна ў 1944 годзе жыла ў Беластоку. Магчыма, што яшчэ і цяпер тут жыве. Шукае яе Іван Міхайлавіч Лучук, якога сынам — МІШКАМ — цётка Ліза заапекавалася ў час вайны. На жаль, бацька забыў яе прозвішча, Міша таксама не ведае, як завецца цётка Ліза.

Іван Лучук расстаўся са сваёй сям'ёй у першых днях вайны. Пайшоў на фронт, а жонка, Шура, з сынам асталіся ў Смаленску. Пасля вызвалення Смаленска Лучук ужо не застаў там сям'і. Яму сказалі, што яго жонка з сынам выехала ў вёску.

Салдаты аднапалчане ведалі, што шафёр Лучук шукае сям'і. І яны дапамаглі знайсці хлопца аж у Беластоку. Як ён з мамай сюды папаў, гэтага, на жаль, не ведаем.

Бацька апавядае:

— Наша база часова памяшчалася ў Беластоку. Аднойчы вярнуўся я з паездкі і, змучаны, заснуў. Незадоўга мяне разбудзілі і сказалі, што знайшоўся мой сын. Я ўзяў машыну і з таварышамі салдатамі паехалі мы там, дзе ён меў знаходзіцца. Сустрэла нас жанчына. «Калі хлопец вас пазнае, сказала яна, тады аддам». Міша мяне адразу пазнаў і я яго забраў з сабою. Ён ужо да канца вайны са мной не расставаўся. Камандванне прызнала яго «Сынам палка». Ад цёткі Лізы я даведаўся, што маёй жонкі няма ў жывых. Гэтая жанчына, якая замяніла майму сыну маму, паказала мне магілу маёй Шуркі.

Прайшло столькі часу, мой сын стаў дарослым чалавекам. Мы хацелі б адшукаць цётку Лізу, даведацца пра яе лёс, папрасіць да сябе ў госці, падзякаваць за яе заботу. Тады, у вайну, не было дзеля гэтага ні часу, ні спрыяльных умоў.

Цэлым сэрцам прылучаемся да жаданняў бацькі і сына. Можа хто што-небудзь ведае пра цётку Лізу, можа яна сама захоча адазвацца. (Ліза — гэта Елізавета, што па-польску абазначае — Эльжбета). (вр)





Іван Лучук з сынам Мішам у 1944 годзе і цяпер. Фота «Аганёк»

БЕЛАРУСІЯНА

# У беларускай хаце

У II томе выдання: «Zeszyty Etnograficzne Muzeum kultury i sztuki ludowej w Warszawie» знаходзім артыкул Марыі Парноўскай пад загалоўкам: «Внутреннее устройство крестьянского жилого дома в деревнях района (повята) Бельск Подляски». Аўтар дае даволі падрабязнае і наогул цікавае апісанне хатняга абсталявання сялянскіх хатаў Бельшчыны ў мінулым і зараз. Аўтар сцвярджае, што Бельскі павет характарызуюць два моманты: нізкі жыццёвы ўзровень і складаная этнічная структура. Аўтар спрабуе адказаць на пытанне, як у гэтай спецыфічнай сітуацыі праходзіць працэс перамен унутранага абсталявання. З подпісаў пад ілюстрацыямі і заўваг у зносках вынікае, што аўтар праводзіла свае доследы ў такіх вёсках, як: Рыбалы, Плюцічы, Керснова, Гусакі, Патока, Райск, Храбалы — гэта значыць у беларускіх, ці як аўтар іх называе «праваслаўных» вёсках. У тэксце аднак Парноўская трактуе Бельскі павет як цэласць і аналізаваныя з'явы адносіць да ўсяго павета без разрознення этнічных груп ці этнічнага характару паасобных вёсак. Узнікае пытанне, ці ўласцівы такі падыход для вырашэння пастаўленага аўтарам задання? З тэксту артыкула вынікае, што ў мінулым былі значныя розніцы ў будаўніцтве і абсталяванні хатаў паміж польскім і беларускім насельніцтвам Бельшчыны. Спецыфічныя беларускія рысы зводзіліся перад усім да забудовы двароў такім чынам, каб пад адною страхою размяшчаліся ўсе або амаль усе гаспадарскія будынкі, адноізбовай хаты з характэрным размяшчэннем печы, стала і нараў, асаблівага «сакральнага» значэння «кута», упрыгожання хатаў вышытымі ручнікамі, спосабу развешвання і ўпрыгожвання іконаў. Гэтыя рысы праваслаўнага насельніцтва Бельшчыны былі характэрны для ўсяе ўсходняй славяншчыны, тады калі характэрныя рысы польскага насельніцтва Бельшчыны спалучалі яго з заходняй славяншчынай.

Было б цікава і карысна ведаць, ці этнічныя асаблівасці маюць або мелі ўплыў на працэс пераўтварэння вясковага будаўніцтва і хатняга абсталявання. З гэтага артыкула, аднак, не даведаемся з увагі на прыняты аўтарам прынцып абсталявання ад гэтых разрозненняў, непрымання іх пад увагу.

У артыкуле сцвярджаецца, што пераўтварэнні хатняга абсталявання найлепш паказваюць, якая з культур іншых грамадскіх груп з'яўляецца сялянам узорам. Паводле аўтара ў Бельскім павеце:

«Повсеместно наблюдается стремление поражать эстетическим критериям, сформировавшимся в среде городских пролетариев». (Стар. 170).

З'яву гэтую Парноўская паясняе тым, што вялікая частка членаў сялянскіх сем'яў мае магчымасць атрымаць работу ў прамысловых гарадах і гэтым самым сялянства сваяцкімі адносінамі звязана з рабочым класам.

Паясненне гэтае таксама выклікае засцярогу. Перад усім не здаецца, каб нашая вёска была больш звязана сваяцкімі адносінамі з рабочым класам чымсьці з інтэлігенцыяй. Вёску пакідаў найчасцей менавіта той элемент, які такім ці іншым чынам быў падрыхтаваны да інтэлігенцкіх прафесій. А па-другое, маем тут дачыненне з агульнай правідловасцю, аб якой гаворыць між іншым кракаўскі этнограф Казімеж Дабравольскі. (Studia nad życiem społecznym i kulturą, Warszawa 1966) той, менавіта, што народная культура заўсёды засвойвае элементы выпрацаваныя ў іншых, больш творчых слаях грамадства, прычым працэс засваення з'яўляецца адначасова працэсам далёка ідучай прымітывізацыі.

Вялікую частку артыкула займае падрабязнае апісанне адной хаты ў вёсцы Гусакі з тыповым для нашых хатаў награмаджэннем сімвалаў такой менавіта прымітыўна-гарадской прыгажосці.

На заканчэнне артыкула аўтар падае крытэрыі гэтай прыгажосці: яскравыя, выразныя колеры, вострыя кантрасты, падрабязны рэалізм у аднаўленні дэталяў будоўлі і размалёўцы птушак і звяроў, схематызм у размалёўцы кветак. Тэматычна карціны гэтыя датычаць жыцця «вышэйшых сфер», азёры, лебедзі, бярозы, алені — неабходныя эксесуары гэтай прыгажосці. Частка карцін датычыць казачнага свету.

**Ул. Паўлючук**

# ЦЯПЕРАШНІЯ ЖАНІЦЬБЫ

Мая суседка ўдава, ёй 76 год. Да яе заходзіў мужчына, які вельмі прасіў, каб яна захацела выйсці за яго замуж. У гэтым факце няма нічога надзвычайнага, цяпер людзі ацэньваюць старасць не паводле ўзросту, але паводле пачуцця, настрою. У мінулым годзе ў Беластоку жанілася пара: ёй было 83 гады і яму было 83 гады. Равеснікі.

У які час найбольш жэняцца, у якую пару года? У вёсках жэняцца яшчэ, пераважна, або зімою, калі больш часу — або на лета, каб мець дадатковыя рукі да працы ў жніво. Аднак, і гэта традыцыя памалу знікае, штораз часцей жэняцца ў розныя поры года.

У мінулым годзе ў вёсках такіх грамадскіх рад, як Каралёў Мост, Валілы і Гарадок адбылося 48 вяселляў; у Міхалоўскай і Юшкаўскай аколіцы адбылося 64 вяселлі: у Зубкоўскай старане — 20 вяселляў, у Ялоўскай — 28. Меншыя лікі вяселляў датычаць аколіц вельмі бедных і рэдканаселеных. Такіх, як Ялоўская або Зубкоўская.

У горадзе людзі жэняцца круглы год, штомесяц больш-менш столькі сама. Крыху больш толькі ў Каляду і карнавал. За мінулы год у Беластоку пажанілася 1.279 пар, а ўжо за бягучы год — да дня 16 мая — пажанілася 468 пар. Узіму — 314 пар.

Варта адзначыць, што з кожным годам меншае лік жаніцьбаў, скажам, «раптоўных», «прымусовых», калі няма як ужо чакаць далей. У гэтым годзе пажанілася 40 такіх пар, якія атрымалі дазвол ад Ваяводскай рады на «хуткую» жаніцьбу.

У Беластоку хутка ажаніцца без, так званай, паважнай прычыны вельмі цяжка з увагі на вялікую колькасць ахвотных. Беластоцкі УСЦ проста не паспявае. Таму многія хлопцы жэняцца ў родных мясцовасцях — мясцэчках сваіх нарачоных. Бывае так большменш з кожнай дзесятай парай маладых, значыць, 10%. Бо столькі будзе ў Беластоку «свежага» насельніцтва — даязджаючых на працу, працуючых часова, студэнтаў і т.п. (С.Я.)






Калі выйшаў апошні наведвальнік, прэзідэнт павёў дзяцей купацца ў басейне, а пасля абеду схіліўся над паперамі ў авальным кабінеце на другім паверсе Белага дома. Трэба было праглядзець падрыхтаваныя тэксты прамоў для Тэхаса; заняцца некаторымі асабістымі справамі; разабрацца ў новых палітычных праблемах, бо з месяца ў месяц ужо нарастала напружанасць надыходзіўшага года выбараў. Ён ясна адчуваў, што рэспубліканская партыя ўступіць, паддасца спакусе і вылучыць кандыдатуру Бары Галдуотэра. Але ён не мог разлічваць на такую невераг одную ўдачу і таму планаваў максімальныя намаганні. Калі б Галдуотэр стаў ахвярным ягнём, тым лепш; ён знік бы з палітычнай арэны, пацярпеўшы сакрушальнае паражэнне. Прэзідэнт быў упэўнены ў сваім трыумфальным перавыбранні. Перш чым пакінуць гэту пасаду, лічыў прэзідэнт, ён стане старым дзяржаўным дзеячом Захаду, магчыма ўсяго свету, і ён падумваў ужо аб саставе другога ўрада Кенедзі. Яго брат хацеў пакінуць пасаду міністра юстыцыі. Потым Дуглас Дылан збіраўся пакінуць міністэрства фінансаў. І, нарэшце, Раск. Разумеючы, што прэзідэнт мае цвёрды намер быць уласным міністрам замежных спраў, Раск усё больш спадзяваўся на яго і ў іншых адносінах. Пасля перавыбрання прэзідэнта на другі тэрмін кабінет амаль напэўна ўзначаліў бы Роберт Макнамара. Бобі вырашыў, што як толькі Раск пойдзе, ён папросіць аб прызначэнні на пасаду памочніка дзяржаўнага сакратара па міжамерыканскіх справах. Але з рэарганізацыяй кабінета яшчэ можна пачакаць...

Яго першым дзелавым спатканнем у сераду была сустрэча за снеданнем з кіраўнікамі кангрэсу. Сенатар ад Мінесоты Губерт Хэмфры і намеснік лідэра большасці ў палаце прадстаўнікоў луізіянец Хейл Богс заявілі, што заклапочаны паведамленнямі аб магчымасці вылазак супраць прэзідэнта ў Даласе. Кенедзі сказаў, што ўжо сама думка аб тым, што амерыканскі прэзідэнт не адважыцца накіравацца ў ЛЮБЫ амерыканскі горад, проста немагчыма. «Пан прэзідэнт, — паўжартам сказаў Богс, — вы накіроўваецеся ў асінае гняздо». Кенедзі рассеяна адказаў: Што ж, гэта заўсёды збірае натоўпы разявак».

Сапраўды, усё ў Тэхасе прадракала «гарачы» прыём. Праўда, кіраўніцтва дэмакратычнай партыі імкнулася там, як і ўсюды па краіне, да захавання ўнутрыпартыйнага міру, але тэхасцаў гэта не кранала. Выбаршыя акругі былі падобныя на аўтаномныя княствы, і ўсе яны раздзіраліся ўнутрыпартыйнымі супярэчнасцямі. Тэхаскія дэмакраты былі палітычнымі канібаламі, якія пажыралі прастадушных прышэльцаў. Але Кенедзі не быў прастадушны. Яшчэ ў 1960 годзе на партыйным з'ездзе ў Лос-Анжэласе, дзе Джонсан спрабаваў абысці яго пры вылучэнні кандыдатуры на пасаду прэзідэнта, яму прыйшлося вытрымаць магутную атаку прыхільнікаў Джонсана, якія распаўсюджвалі чуткі аб тым, што Кенедзі не дажыве і да канца свайго першага тэрміну, таму што ён «хварэе». (Потым пасля з'езда, яны заяўлялі з нявіннай мінай, што мелі на ўвазе яго адысонаву хваробу).

### ДАРЭМНЫЯ ПАПЯРЭДЖАННІ

Прэзідэнт ведаў падрабязнасці жорсткіх спрэчак паміж Канэлі і Ярбора толькі ў агульных рысах. Варожасць жа гэта пачалася яшчэ да таго, як з'явіліся на свет абодва сапернікі, і ўзнікла яна на глебе ідэйных разыходжанняў. У 30-х гадах правае крыло дэмакратычнай партыі ў Тэхасе здрадзіла прэзідэнту Рузвельту, паслала ў 1944 годзе асабовую дэлегацыю на нацыянальны з'езд і адмовіла ў 1952 годзе ў падтрымцы Эдлаю Стывенсану.

Ліберальнае крыло, так званыя тэхаскія дэмакраты (ДОТ), бачылі куміра ў Ральфе («Рафе») Ярбара, які тройчы беспаспяхова вылучаў сваю кандыдатуру, перш чым быў выбраны ў 1957 годзе ў сенат Злучаных Штатаў. Маючы пастаянныя спрэчкі з іншымі дэмакратамі, Раф тым не менш заставаўся адзіным ліберальна настроеным тэхасцам у кангрэсе. На з'ездзе ў Лос-Анжэласе ён адзін з усёй тэхаскай дэлегацыі падтрымаў Джона Кенедзі ў той час, як усе астатнія галасавалі за свайго земляка Джонсана.

Яго пакаралі, пазбавіўшы месца ў тэхаскай дэлегацыі; сенатару прыйшлося сядзець на галарэі для гледачоў. Гэтым пакаранне не абмежавалася б, але ўмяшаўся Рэйнберн. Праз год Рэйнберн памёр. Яго ўціхамірвальнага ўплыву не стала. Правыя цяпер маглі беспакарана накінуцца на папулісцкага адшчапенца. Акрамя таго, у іх быў цяпер кіраўнік, які як нельга лепш падыходзіў для гэтай мэты. Джонсан ніколі не карыстаўся ў іх поўным давер'ем. На чыім ён баку — было не зусім ясна. Джон Конэлі, аднак, быў для іх неацэннай знаходкай. Конэлі быў адміністрацыйным памочнікам Джонсана і марскім міністрам Кенедзі, а цяпер губернатарам. Пабочныя ўсё яшчэ лічылі яго чалавекам Кенедзі — Джонсана.

 

Людзі БГКТ

# КАСТУСЬ ГРЫЦ

Кастусь Грыц нарадзіўся і пражыў маладосць у тыя часы, калі людзі на вёсцы не мелі ніякіх магчымасцей вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах, калі нават атрыманне поўнай пачатковай адукацыі не было простай і лёгкай справай. Жыў ён і працаваў на гаспадарцы ў Старым Ляўкове. Бунтаваўся, як многія, супраць сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці. Як многія тады сяляне належаў да Работніцка-сялянскай Грамады і як радавы яе член радаваўся ўсімі перамогамі рэвалюцыйнага руху, і сумаваў, перажываў, калі цярпеў гэты рух паражэнні.



Вялікія перамены ў жыцці сям'і Кастуся Грыца наступілі ў часы савецкай улады на Беласточчыне, гэта значыць у 1939—1941 гадах. Стаў ён тады рабочым Гайнаўскага тартака і з усёй сям'ёй пераехаў у гэтае пушчанскае мястэчка. Тут у Гайнаўцы жыве ён па сённяшні дзень. Неяк шчасліва пражыў нямецкую акупацыю, а пасля вызвалення адбудоўваў гэтае прадпрыемства. З ім зжыўся і ў ім працуе і зараз. Тут выявіў сябе як добры рабочы, як сумленны чалавек. Вось таму калектыў тартака праз некалькі кадэнцый выбірае яго на члена рады закладовай. Пазней быў пакліканы ён на грамадскага сакратара павятовага праўлення Фронту адзінства народа. Але з усіх грамадскіх функцый Кастусь Грыц найбольш часу і энергіі прысвяціў дзейнасці ў бацькоўскім камітэце. Ён 13 год быў старшынёю бацькоўскага камітэта пры беларускай пачатковай школе і беларускім ліцэі ў Гайнаўцы.

А работы, арганізатарскай работы ў пачатковай школе і ліцэі для яго заўсёды было вельмі многа. Тут і арганізацыя дня настаўніка, навагодняй ёлкі, студнёўкі, выпускной вечарыны. Тут патрэбна была апека над школьнымі рамонтамі і арганізацыя грамадскіх чынаў адносна пашырэння школьнага памяшкання і дапамога кіраўніцтву школы ў некаторых складаных справах навучання і выхавання. У гэтай жа беларускай школе вучыліся ўсе пяцёра яго дзяцей.

Кастусь Грыц з'яўляецца адным з першых і адным з найактыўнейшых членаў Гайнаўскага аддзела беларускага грамадска-культурнага таварыства. Узначальвае ён праўленне Гайнаўскага гарадскога гуртка БГКТ. З яго ініцыятывы і дзякуючы яго вялікім намаганням арганізаваўся мастацкі калектыў, які складаецца з харавой і драматычнай групы. Гэты калектыў мае ўжо за сабою шмат выступленняў. І куды б гэты калектыў не выязджаў, амаль заўсёды можна разам там убачыць апекуна калектыву — Кастуся Грыца. Ніхто столькі, як ён, не стараецца, каб была поўная прысутнасць на рэпетыцыях. Часта Кастусь Грыц ходзіць дахаты ўдзельнікаў калектыву напамінаючы аб рэпетыцыі, а часам нават просіць удзельнікаў калектыву, каб адлажылі іншыя справы і былі прысутныя на рэпетыцыях, каб удасканальвалі свае ролі, каб выехалі на выступленні, каб паказалі прыгажосць беларускага літаратурнага слова, беларускай песні і музыкі.

Калі ведаеш, або даведаешся аб аддаласці, аб ахвярнасці, аб працавітасці Кастуся Грыца для беларускай арганізацыі, адразу прыходзіць думка аб тым, што малавата ў БГКТ такіх людзей.

14 чэрвеня Кастусь Грыц будзе адзначаць 60-ую гадавіну свайго жыцця. Нашаму юбіляту ад усяе душы складаем найлепшыя пажаданні. Жадаем Вам, Кастусь Грыц, добрага здароўя і далейшых поспехаў у прафесіянальнай і грамадскай працы.

**Міхась Хмялеўскі**

---

Яны памыляліся. Яго кансерватызм, як і лібералізм Ярбара, быў зусім шчыры.

Як кіраўнік выканаўчай улады штата, ён павінен быў прымаць кіраўніка дзяржавы. Адзін з памочнікаў прэзідэнта, Кен О'Донел і яго калега Лары О'Брайен паведамілі ўсім зацікаўленым бакам, што губернатару «даецца поўная свабода». Першы намёк на тое, як ён збіраўся выкарыстаць гэту свабоду, паступіў у пачатку кастрычніка. Перад абмеркаваннем дэталей будучай паездкі прэзідэнта Конэлі наладзіў у Даласе нараду з верхаводамі горада. Фактычна губернатар прасіў прабачэння ў іх за візіт прэзідэнта. Ён сам звязан, заявіў Конэлі. Ён не мог забараніць кіраўніку дзяржавы прыехаць. Але ён хацеў, каб яны ведалі, што ён зусім не мае намеру ператварацца ў «хлопчыка на пабягушках пры Кенедзі». Больш таго, калі ён выкарыстае гэты выпадак, каб унізіць Ярбара, то пры пэўных акалічнасцях з лібералізмам у Тэхасе можа быць скончана. Ён сказаў: «Мне патрэбна непалітычная група, якая прадстаўляе Далас, і вы, панове, з прычыны сваіх сувязей складаеце іменна такую групу».

У Вашынгтоне ён сабраў 3 кастрычніка тэхасцаў, якія засядалі на капіталійскім узгорку (Ярбара не быў запрошаны), і паведаміў ім, што прэзідэнт мае намер наведаць Сан Антоніо, Х'юстан, Форт-Уорт і Далас. Кенедзі карыстаўся ў Тэхасе падтрымкай, сцвярджаў Конэлі, толькі ў «неграў і перароджаных дэмакратаў». На жаль, яны бедныя, а нацыянальнае кіраўніцтва хацела выкарыстаць гэту паездку для збору сродкаў. «Людзі, якія падтрымліваюць Кенедзі, — людзі без грошай. Я ўжо гаварыў з прадстаўнікамі дзелавых колаў. Яны не маюць намеру фінансаваць яго перадвыбарчую кампанію». Генры Гонзалес, ліберал з Сан-Антоніо, не вытрымаў: «З кім з бізнесменаў вы гаварылі? Калі з тымі самымі, якіх вы прызначылі, я не думаю, каб яны падтрымалі Кенедзі, таму што гэта банда рэспубліканцаў. Я прывяду да вас іншых бізнесменаў. Хоць яны вам могуць і не спадабацца, таму што яны вас не падтрымаюць». Але губернатар працягваў сцвярджаць сваё. На наступны дзень ён выказаў прыкладна тое ж у гутарцы з Кенедзі: прэзідэнт павінен быць вышэй палітыкі. Гэта быў абсурд. Сама пасада прэзідэнта — гэта палітыка. Цяжкасць для Кенедзі заключалася ў тым, што ён не мог адштурхнуць ад сябе Конэлі: калі цырыманіяльная паездка створыць уражанне адзінага фронту дэмакратаў у Тэхасе, ён гэтым задаволіцца.

20 кастрычніка сенатар Ярбара напомніў у Белым доме аб тым, што ён заўсёды, не трацячы мужнасці, трымаў бок Кенедзі. Калі ім хочуць пагрэбаваць, калі гутарка ідзе аб паездцы ў яго родны штат, ён палічыць за лепшае застацца ў Вашынгтоне. Яго супакоілі. «Няўжо Кенедзі можа паехаць у Тэхас без Ярбара? Гэта нават горш, чым наогул туды не ездзіць. Тэхаскія лібералы будуць абураны і адпомсцяць на будучых выбарах».

(Працяг будзе)

---

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

# АБ ЧЫМ ГАМОНЯЦЬ МАКСІМАВЫ ЖАБЫ

Выйдзем цёплым веснавым вечарам з Максімам з хаты ды пасядзем на парозе.

— Цёплы вечар, — з асалодай скажа Міксім, і ў гэтым простым сцверджанні заключыць увесь сэнс сваёй філасофіі — задавальненне.

Сядзем тады з Максімам на парозе і заслухаемся ў адгалоссі цёплай вясенняй ночы.

За Максімавым гародам цягнецца балота, за балотам лес цёмны, над лесам месяц. У балоце — жабы. Іх рахатанне адбіваецца ад цёплай сцяны лесу і напаўняе паветра густым, збітым, дрыжлівым гоманам. Ад іх гоману трасецца балота, дрыжыць месяц, міргаюць зоркі, трэскаюць хмуркі, калышацца Максімава хата. Рахатанне напаўняе вушы, свідруе мозг, падходзіць пад сэрца і ўсё — хата, месяц, балота і мы з Максімам стаемся часткай разрахатанай вясенняй ночы.

У разрахатанай вясенняй стыхіі трачу адчуванне часу. Бо чым жа ёсць час — маё існаванне, трыванне, мая рэальнасць, мая сучаснасць? Прамежкам паміж мінулым і будучым? Прамежак раптоўна звужваецца, зводзіцца да нуля, не існуе. Час майго жыцця раскладаецца на мінулае і будучае, «цяпер» майго я не існуе, няма цяперашняй маёй рэальнасці.

У горадзе, у сваёй хаце-блёку, на запыленай перапоўненай вуліцы, у тлумнай чарзе за каўбасою я пагадзіўся з гэтым фактам. Сваё я перанёс з рэальнай сучаснасці ў міфічную будучыню. Жыву марамі аб будучых маіх перамогах. Захапляюся працамі, яшчэ не выкананымі, туфлямі яшчэ не купленымі, уласнай хатаю — яшчэ не пабудаванай, перамогамі яшчэ не асягнутымі. Уяўляю здзіўленне, зайздрасць і прызнанне сяброў, знаёмых, блізкіх, калі асягну я ўсё гэтае. І спяшаюся. Спяшаюся, каб паспець, спяшаюся даганіць, улавіць няўлоўленую, міфічную будучыню. Бо пазбаўлена мяне майго рэальнага, сучаснага «я», перанесена яго ў адлеглы свет будучыні, свет мараў, міфаў і магічных сімвалаў цывілізацыі.

Зараз я аднак далёка ад гарадскіх хатаў-блёкаў, у дзядзькі свайго — Максіма. У Максіма рахочуць жабы. Услухаюся ў гэтыя тоны, адрозніваю найдрабнейшыя іх адгалоскі. Гэта музыка жыцця. Жабы не толькі рахочуць — яны таксама квакаюць і кумкаюць.

Кумкаюць. Калі гэта было? Мелася тады гадоў чатыры або пяць, калі ўпершыню пачулася гэты голас. Побач была бабуля даўно памёршая, і вельмі пахла лугам.

Потым былі сябры і сяброўкі вясковага дзяцінства, луста пасыпанага соляй хлеба, потым гарачыя мары аб дзяўчыне, інтымныя размовы, песні аб каханні — і ўсё было так як сёння, гэты ж самы жабін канцэрт, і цёмная сцяна лесу, і дрэвы за гумном нерухомыя, застыўшыя, скованыя жабіным рэхатам, і дзядзька Максім на парозе сваёй хаты са скручанай папяросай у губах і з каменным спакоем на твары глядзеўшы ў пустую прастору. Дзядзька без будучыні — міфічнай і казачнай, затое з багатай сучаснасцю.

З міфічнай будучыні адмаўляюся і я ў дзядзькі Максіма. Цэлым нутром адчуваю сучаснасць свайго існавання, сучаснасць багатую, поўную твараў, колераў, пахаў і пачуццяў майго дзяцінства і маёй маладосці — усяго таго, што звязана з пахам непаўторнай Максімавай ночы. Цяжка паверыць, што ў гэтым канцэрце, які сягае глыбока аж на дно памяці, былі перапынкі, перапоўненыя шумам матораў, узрывамі бомбаў, стартамі касмічных ракет і аграмадным патокам чалавечага мнагаслоўя. Бо Максімава ноч трывае нязменна, і нязменна трываюць пакліканыя ёю да жыцця постаці, вобразы, пачуцці і нашае «я», якое існуе ў рэальнай, адчуванай сучаснасці, а не ў адбіцці міфічнай будучыні.

**Рыгор Паўлюк**

---

Мінуў гарачы час гарцэрскага алерту III, але яго вынікі ацэньваюцца зараз. Штопраўда, справа тут на толькі складаная, што гэтыя ж вынікі падводзяцца ў Галоўнай Кватэры ЗГП. Міма таго, мы звярнуліся да камендanta гуфца Беласток-павет **Вальдэмара Пылкоўскага** з просьбай, каб падзяліўся сваімі заўвагамі аб алерце на тэрыторыі Беластоцкага павета.

— Перад усім скажу тое, што трэба паставіць на першае месца і што асталося і пасля алерту — гэта **супрацоўніцтва.** Наш гарцэрскі гуфец здабыў пастаянных сяброў і памочнікаў: Ліга абароны краю, Польскі чырвоны крыж, пажарнікі, міліцыя, пагранічнікі і іншыя. Калі гавару аб гэтым, дык не для куртуазіі, але вельмі шчыра. Хачу падкрэсліць асабісты ўклад афіцэраў і салдат часці пагрнічнікаў у Беластоку, якія саргнізавалі кружок інструктараў ЗГП. Вялікую дапамогу аказвае нам міліцыя, а перш за ўсё паручнік **М. Гоц.**

Але не толькі супрацоўніцтва, не толькі здабыванне гарцэрамі «спраўнасці», не толькі чыста гарцэрскія гульні былі мэтай алерту III. Далі яны і ўсеагульныя вынікі. Кожны павет меў свае справы, свае недахопы. У справах Беластоцкага павета аддаем зноў голас В. Пылкоўскаму.




— Як вам вядома, алерт адбываўся ў паасобных раёнах. Мы мелі іх 17. На сустрэчы з вышэй успомненымі вышлі многія недахопы. Для прыкладу прывяду справы пажарнікаў. У многіх вёсках інсталяваліся громаадводы. Паводле даных пажарнікаў, калі ў вёсцы камплексова іх інсталявалася, цяпер аказалася, што на некаторых будынках іх няма. А калі так, дык справа пажараў ад грому ёсць аднолькава небяспечная. Дзеля гэтага многія дружыны мелі як заданне зрабіць інвентарызацыю будынкаў без громаадводаў. Старэйшыя гарцэры мелі заданне ў галіне гігіенізацыі вёсак. Санітарная станцыя прасіла нас, каб дапамагчы ім у барацьбе за чыстую ваду. Часта здараецца, што калодзеж пабудаваны ў такім месцы, дзе сцякае гной з хлявоў, і таму вада тут брудная. Іменна гарцэрская разведка і правяла спісак калодзежаў пабудаваных у неадпаведных месцах. Істотнай справай, якую стаўляюць ваяводскія партыйныя ўлады, з'яўляецца прадукцыя будаўляных матэрыялаў. Павятовая рада ведае, што цагельняў у свой час было многа, а зараз яны закрыты. Невядома дзе многія з іх распаложаны. Таму нашыя гарцэры прынялі на сябе абавязак адшукаць іх, і такія спіскі маем пераказаць адпаведным уладам. Вельмі істотная і актуальная справа бяспекі дзяцей і моладзі. На дарогах дык мы маем гарцэрскую службу руху. Але надышлі цёплыя дні, а з імі сігналы аб утапленіках. Вясковыя дзеці часта купаюцца ў так званых глінянках (ямы пасля выкапу гліны) ім толькі вядомых, і такім чынам многія там топяцца. У часе алерту і гэта мы пастанавілі заінвентарызаваць і безумоўна дапамагчы абяспечыць. Былі многія іншыя заданні, але прыведзеныя прыклады працы гарцэраў, па-мойму, служаць усім, і гарцэрам, і грамадству.

Прышлося мне назіраць падрыхтоўку да алерту. Сапраўды, гэта вельмі карысная акцыя. Бачыў пісьмо ад гарцэраў з Агароднічак, якія паведамлялі яшчэ перад алертам, што каля іх школы, якая знаходзіцца над самай шашою, няма адпаведнага дарожнага знаку, а гэта абазначае, што моладзь ужо мае некаторыя вельмі карысныя навыкі.

Пажаданым было б, каб у наступным алерце прынялі свой удзел арганізацыі і ўстановы, якія існуюць непасрэдна ў вёсцы. Вынікі напэўна былі б яшчэ лепшыя.

А. К.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НОВЫЯ ПАЭТЫЧНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У сувязі з Днямі асветы, кнігі і прэсы з ініцыятывы кіраўніка павятовай бібліятэкі ў Гайнаўцы Леакадзіі Бартосік і аддзела БГКТ у Гайнаўцы, вядомыя беларускія паэты Алесь Барскі і Віктар Швед ад 21 да 23 мая г.г .пабывалі на Гайнаўшчыне. Наведалі яны школы ў Кляшчэлях, Дашах, Міклашэве, Альхоўцы, Рэпісках, Трывежы, Ляўкове і Ляшуках. Ва ўсіх гэтых школах паэты правялі аўтарскія сустрэчы з вучнямі, або з моладдзю і дарослымі. Амаль на ўсіх сустрэчах прысутныя ставілі паэтам дзесяткі пытанняў, якія датычылі творчасці пісьменнікаў, іх жыцця і іх літаратурных планаў. У многіх школах вучні дэкламавалі вершы прысутных паэтаў, спявалі беларускія песні. У тракце аўтарскіх сустрэч А. Барскі і В. Швед падпісалі каля ста экземпляраў альманаха «Белавежа». У некаторых з успомненых мясцовасцей пасля афіцыйных сустрэч паэты спатыкаліся з настаўнікамі. Да незабыўных будуць належаць спатканні з Тамарай і Сяргеем Раманчукамі з Альхоўкі, а таксама з кіраўнікамі школ у Рэпісках і Трывежы.

У суме ў спатканнях з беларускімі аўтарамі прыняло ўдзел каля 700 асоб.

**Віктар Бура**
Гайнаўка

## УТАПІЎСЯ

Падчас гульні дзяцей над берагам рэчкі Нарвы 20-га мая пасля абеда ўтапіўся 5-цігадовы хлопчык, сын М. Міруця. Смерць малога Ёзіка ўсхвалявала ўсіх бацькоў наднараўскіх вёсак. Справа ў тым, што і з іншых вёсак многа дзяцей без апекі гуляе над рэчкай.

С. М.
Слабодка

## КАМАСАЦЫЯ

У Грознай (Гайнаўскі павет) пачаліся работы ў сувязі з ліквідацыяй церасапалосіцы. Праводзіць памеры зямлі геадэзіст Генрык Тышко.

Ужо на восень да пасеваў жыта камасацыя будзе закончана, і сяляне азімае збожжа пасеюць на сваіх шырокіх новых палетках.

Ярош
Белкі

## ЦЫРУЛЬНЯ НА ВУЛІЦЫ

У вёсцы Цялушкі на Бельшчыне амаль кожную нядзелю каля крамы на вуліцы адбываецца стрыжка валос. Мясцовы цырульнік Рыгор Іванюк многіх аднавяскоўцаў «адмалоджвае».

— Іванюк не горш стрыжэ ад беластоцкіх фрызыераў, — заяўляе яго кліент, Анатоль Кавальчук.

Такі спецыяліст, як Рыгор Іванюк, вельмі патрэбны ў вёсцы. І пара ўжо падумаць аб тым, каб і на нашых вёсках былі кваліфікаваныя цырульнікі, каб толькі з-за стрыжкі валос не траціць масу часу на паездку ў мястэчка.

(мх)

---

З гэтым яна і заснула. Муха сядзеў каля акна, глядзеў на спячую дзяўчыну, на яе моцныя ногі, на прыгожы і спакойны ў сне твар, на грудзі, якія віднелі ў выразе сукенкі, — ён глядзеў на чалавека, асуджанага ім на смерць і ціха хрустаў пальцамі.

Муха сядзеў непарушна, бы скульптура. Ён павінен быў сядзець тут да той пары, пакуль гэтая дзяўчына не прачнецца і не скажа яму, дзе рацыя і шыфры. Потым яны прывязуць усё гэта сюды, і ён будзе пастаўляць ёй дэзінфармацыю і яна пачне перадаваць дэзінфармацыю ў цэнтр Бародзіну, а потым трэба будзе знайсці таго, хто скінуты разам з ёй, і зрабіць так, каб ён сустрэўся з Бергам менавіта ў той момант, калі яго можна будзе ўзяць на гарачым учынку. Што далей будзе — гэта ўжо Муху не хвалявала. Яны потым адпраўляць яго ў тыл, у Германію, далей ад вайны і крыві. Хопіць з яго. Хопіць з яго таго, што ён бачыў. Хопіць з яго бяссонніцы, страху і надзей, якім не збыцца. У яго будзе маленькая аўтамайстэрня, маленькі катэдж і маленькая машына «ДКВ». Больш яму нічога не трэба. Нічога. Ён увесь час адчуваў у сябе на патыліцы чужыя вочы — з той пары, як прызямліўся тут. Ён больш не мог так, не вытрымлівалі нервы. Яму запрапанавалі гэту дробязную справу. І ён згадзіўся. Згадзіўся таму, што не мог зрабіць інакш: не вытрымоўвалі нервы. Хопіць з яго, хопіць.

**(Працяг будзе)**

## БЕСТАЛКОВІЦА

Ужо мінула 10 год, як у Трасцянцы пачалася камасацыя зямлі. Сем год ездзілі, мералі палі і агароды, нервавалі людзей і на канец ледзь параздавалі гаспадарам вызначаныя шырокія палеткі. З таго часу мінула ўжо 3-ы гады. І за гэтыя тры гады фінансавы аддзел Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы не давёў да парадку рэестраў зямлі і не ападаткаваў яе згодна з камасацыяй.

Сяляне плацяць падаткі па-старому. У сувязі з гэтым адны гаспадары пакрыўджаныя, а другія «ўшчасліўленыя» — таму што плоцяць падатку замала. У гэтай справе прышлося мне гаварыць з грамадскім старшынёй Фронту адзінства народа Іванам Грыгаруком, які адначасова быў старшынёй грамадскай камісіі па камасацыі зямлі. Грыгарук аўтарытэтна сцвярджае, што блізка 30% сялян мае замалы падатак, а 50% мае завялікі падатак. Некаторыя з тых пакрыўджаных сялян пакідалі свае гаспадаркі і паўцякалі ў горад, а зямля ляжыць аблогай. Такая бесталковіца з завышаным падаткам, між іншым, мае ўплыў на моладзь, якая масава пакідае гаспадаркі і ідзе працаваць да прамысловасці.

М.Л.
Белкі

## У ГУРТКУ ЛІГІ АХОВЫ ПРЫРОДЫ

Школьная моладзь з Крыўца актыўна працуе ў гуртку Лігі аховы прыроды. Пад кіраўніцтвам свайго настаўніка Яна Раманюка школьнікі робяць кармушкі, і ў зімнюю пару ратуюць ад галоднай смерці птушак і звяроў. Ваяводскае праўленне Польскага паляўнічага саюза штогод арганізуе конкурсы дакармляння птушак і звяроў. У 1965 годзе школа з Крыўца заняла першае месца ў ваяводстве і атрымала грашовую ўзнагароду. За гэтыя грошы быў закуплены пінг-понгавы стол з сеткаю і другімі прыладамі.

За атрыманую ўзнагароду ў мінулым годзе былі куплены для школы мячы да валейбола і баскетбола.

Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова




Дарагое Сэрцайка!

Пакахала я хлопца з суседняй вёскі, які мае больш 20-ці гадоў (я 18). Я яшчэ вучуся, а ён ужо на пасадзе. Прыязджае часта на забаву ў нашую вёску. Нядаўна ў іхняй вёсцы быў фэст, і ён прыехаў і запрасіў мяне на забаву. На забаве ніводнага разу не папрасіў мяне танцаваць. Я вымушана была гуляць з іншымі.

У наступную нядзелю ў маёй вёсцы была забава і ён, як заўсёды, прыехаў. Адразу падышоў да мяне і мы гулялі цэлы вечар. Нічога я яму аб мінулай прыкрай справе не гаварыла. Парай, Сэрцайка, ці сказаць яму аб гэтым, што ён так брыдка са мною паступіў, ці не, бо мне вельмі на ім залежыць. За параду вельмі буду ўдзячна.

Нюся з Бельскага павета

Дарагая Нюся!

Твой хлопец вельмі некультурна паступіў з табою. Тым больш, што сам асабіста запрасіў цябе на забаву ў сваю вёску і там цябе пакінуў. Аж цяжка паверыць, што гэта зрабіў хлопец, які ўжо мае больш 20-ці год і на пасадзе. Калі б нават ён не быў тваім нарачоным і так паступіў, таксама нельга гэтага прамаўчаць. Пры найбліжэйшай сустрэчы ты павінна запытаць яго, з якіх прычын ён так брыдка паступіў. Абавязкова ты павінна аб гэтым пагаварыць. Якія будуць яго тлумачэнні, цяжка ж згадаць. Аднак мне здаецца, што ніякія тут не могуць быць змякчаючыя акалічнасці, калі ён быў на забаве цэлы вечар і гуляў з іншымі. Ты павінна далікатна і ўмела пакіраваць гэтай справай, каб ён зразумеў свой дрэнны паступак і запамятаў сабе на будучыню, што так брыдка з дзяўчынаю не паступаюць.

**Сэрцайка**

## ДРУЖНАЙ ПРАЦАЙ



**Сяляне вёскі Катлы вязуць жвір.**

Школа ў Катлах знаходзіцца ў некалькіх будынках. Да гэтага часу не мае яна спецыяльнага памяшкання на практычныя заняткі. Вось таму бацькоўскі камітэт пастанавіў грамадскім чынам пабудаваць гаспадарчы будынак, у якім таксама знойдзецца спецыяльная зала на практычныя заняткі. Ініцыятыву бацькоўскага камітэта падтрымалі ўсе жыхары Катлоў, Сабуткі і Арлянкі. Пачалі яны ўжо звозіць жвір. Незадоўга пачнецца рабенне пустакоў.

«Фахоўцаў» аплаціць ГРН у Пасынках.

Тэкст і фота
П. Зінкевіч
Бельскі павет

## МАМА! УСТАНЬ! ПАГЛЯДЗІ!

Жыву я ў Гайнаўцы. Ужо 8 год з'яўляюся пенсіянерам. Было б вельмі цяжка жыць, каб не было чым займацца. Але вясной, летам і восенню я знаходжу працу ў сваім агародзе. Зімой езджу па вёсках, раблю сходы ў гуртках БГКТ, гутару з моладдзю і старэйшымі, прыглядаюся да іх жыцця. Часта я параўноўваю жыццё на вёсках за мае маладосці і цяперашнім, і проста здзіўляюся, што сам з'яўляюся сведкам такіх аграмадных перамен. Заніклі камінкі, пайшлі ў адстаўку жорна, ступы да таўчэння куці, вельмі мала ўжо карыстаюцца сяляне сярпамі, косамі, цапамі. Электрычнае святло не толькі ў хатах, але і на вуліцы. На палях ракочуць трактары, а падчас малацьбы гудзяць малатарні. Пайшлі таксама ў адстаўку калаўроткі і кросны. І вось як успомню я сваіх бацькоў, дык неяк адразу хочацца крыкнуць «Мама! Устань! Паглядзі! — якое цудоўнае цяпер жыццё. Ты, бывала, цэлае сваё жыццё круціла калаўроткам да поўначы, мучылася пры жорнах, каб намалоць на хлеб, а летам, сагнуўшыся, сярпом жала збожжа. Працавала ты ў некалькі разоў больш, як цяпер працуюць на вёсцы. Усё ты рабіла, каб як-небудзь нас пракарміць і адзець. І здаецца, гэта зусім нядаўна было. А як усё змянілася».

Замест старэнькіх, крытых саломаю хат, будуюцца прасторныя мураванкі. І гэтыя перамены ўсюды адбываюцца.

Я асабіста гэтую перамену асабліва адчуў у вёсцы Мора. Я быў у гэтай вёсцы сем год таму назад. І за гэтыя сем год вёска аднавілася. Калісьці там было вельмі многа старэнькіх, саломаю пакрытых, хат. Цяпер ёсць ужо ў вёсцы школа, крама. Многа хат ашалёваных, пакрытых дахоўкаю Ды наогул сяляне скідаюць саламяныя стрэхі, перакрываюць хаты і гаспадарчыя будынкі.

Да прыгажэйшых зараз вёсак на Гайнаўшчыне залічваюцца: Чыжы, Трасцянка, Дубіны, Клейнікі, Ласінка, Дубічы Царкоўныя, Новаберазова, Чаромха, Махнатае і іншыя. Але ёсць яшчэ вёскі, дзе старынай пахне. Гэткай вёскай з'яўляецца Макаўка, што каля Нарвы. Тут яшчэ можна пабачыць, як выглядалі будынкі ў беларускіх вёсках сто год таму назад.

Але сярод гэтых будынкаў таксама паяўляюцца сучасныя прыгожыя хаты і забудаванні.

Васіль Дзун
Гайнаўка

## КАРЫСЦІ З СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ АДУКАЦЫІ

Пачынаючы ад 1964 года ў грамадзе Семяноўка кожны год па 15 дзён праводзяцца сельскагаспадарчыя заняткі. Выкладчыкамі з'яўляюцца: мясцовы аграном Я. Кардаш і іншыя спецыялісты па сельскай гаспадарцы. Вынікам гэтых заняткаў з'яўляецца тое, што гаспадары цяпер аднаўляюць насенне збожжа бульбы, а таксама ўводзяць новыя гатункі сельскагаспадарчых культур. І так, сяляне Тарнопаля ўвялі новы жоўты гатунак аўса. Гаспадары Лукі ўвялі новы гатунак бульбы «Эпоха», а жыхары Слабодкі — новы гатунак жыта «Людовэ». Уведзеныя новыя гатункі культур значна пабольшылі ўраджаі.

Чарот

# КІНО

**Праграма на 13—18.VI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Przepustka na ląd" (radz.), 13—14. „Miłość surowo wzbroniona" (węgierski), 15—16. „Szyfry" (polski), 17—18.

**Кляшчэлі**
„Pojedynek" (radz.), 13—14. „Popioły" (polski), I i II s. 15—18.

**Дубіны**
„Panie inspektorze" (jugosł.), „Śmierć Belli" (franc.), 17—18.

**Нараўка**
„Strzelby apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 14—18.

**Чыжы**
„Okno na lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 14—18.

**Дубічы Царкоўныя**
„O carski tron" (franc.), „Siódmy przysięgły" (franc.), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Barwy walki" (polski), „Trzy światy Guliwera" (angl.), 14—18.

**Райск**
„Arcylokaj" (franc.), „Odraza" (węgierski), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Ucieczka w milczenie" (NRD), „Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 13—16.

**Міхалова**
„Rok przestępny" (radz.), 13—14. „W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 15—16. „Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Poślubny rejs" (angl.), 13—14. „Rycerz bez zbroi" (bułg.), 15—16. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 17—18.

**Шудзялава**
„Oskarżony" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 13—18.

**Сідра**
„Sędzic dla nieletnich" (NRF), 13—14. „Trzy klucze" (jugosł.), 15—16. „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 17—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Bariera" (polski), „Pod karnawałową maską" (kubański), 14—18.

**Ліпск**
„Winnetou" (jugosł.), I i II s. 17—18.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.711 Błtk M-?

# Прадпрыемства

Па вясковых падворках ад нейкага часу пачала кружыць пагалоска, што вясковыя прадпрыемствы змяншаюць і ўпрыгожваюць твар зямлі, упадабняюць вёску да горада.

Міцька з Гануляю пачалі фабрыкаваць лёды. От і ўжо ў гарачую пару ёсць асалода для вёскі.

Але што ж, некаторыя прадпрыемствы маюць вялікія вочы...

— Ведаеш што, даражэнькая, — сказаў Міцька да жонкі. — Людзі маюць толькі балёнаў! А калёса старыя часта лопаюць. Трэба адкрыць вулканізацыю.

І ўжо на адным падворку зрабілася два прадпрыемствы! Усё было б добра, каб Міцька ад вулканізацыі не хадзіў памагаць круціць для Ганулі лёды. Міцьку злавіў інспектар «Санэпід» з бруднымі рукамі каля прадукцыі лёдаў і закрыў фабрыку.

Адчыніў Трахім з сваякамі кафлярню. З месца пашла работа. Людзі рабілі новыя печы і цешыліся, што пад бокам можна купіць новенькія кафлі. Супольнікі грашыма дзяліліся ў парадку. Але як то людзі кажуць — непаладзіліся за гліну! І так раз'ехалася цэлая кафлярня...

Антоша зацягнуў у ГС доўгатэрміновую пазыку на карову... Але купіў дахаўчарку... Тут і там пачалі штораз часцей гінуць з дамоў пазелянелыя саламяныя стрэхі. А ў Антошы чырванеў з радасці твар, бо людзі куплялі і хвалілі добрую чарапіцу. Сплаціў пазыку і зарабіў пару тысяч. Гарэлкі не браў і ў рот! Але як пачаў гарэлкаю шмараваць формы, чарапіца пачала трэскаць, як ад марозу. Нарэшце трэснуўся лобам аб станок і развалілася цэлае прадпрыемства. Змушаны быў больш аддаць на дахтароў, чым зарабіў...

Адчыканіў Прахор новую крайзегу. Людзі пачалі ехаць, як да тартака. Дошкі, аконні, штахеты! Выбірай, што каму трэба!

Прывязлі махляры крадзеную штуку. Не паспеў Прахор пусціць пілы, а чорт паднёс лясную стражу. І фунда з падмазкаю не памагла! Абшнуравалі пілу і павесілі да высянення алавяную плёмбу...

Смакаваў Васіль ходзячы па вёсцы і ўрэшце дайшоў да вываду: — І я маю добры фах, залажу прадпрыемства! Навошта Надзя мае цягаць да свае паtaемкі з горада?

Зрабіў усё акуратна. Заліў брагу. Ужо даходзіў другі літар першачка, але ўмяшаліся міліцыянеры і ўзялі дый накрылі ля апарата...

А суд прызнаў Васілю 30 тысяч прэміі і на тры гады паслалі ў санаторыю...

Васіль, ідучы, толькі развёў рукамі і сказаў:

— Няма што, дбаюць пра людзей. то дбаюць, а ты чалавеча цяпер пакукай...

**Цётка Мальвіна**

# НІўКА

Рацыяналізатар.

### ВЫ ДУМАЕЦЕ?

Афіцыянт: — Калі вы зараз жа не разлічыцеся, я паклічу міліцыянера.

Наведвальнік. — Вы думаеце, ён гэта зробіць за мяне?

### ДЗЯКУЙ

— Пацалуй мяне так яшчэ раз, і я буду тваёй назаўсёды.

— Дзякуй Богу, што ты мяне папярэдзіла!

### «САРОДЗІЧ»

— А, Мухамор —
Сародзіч мой! —
Салодка Муха пазяхнула
І... тут жа лапкі працягнула.

**Віктар Рэчыц**

### ТАКСАМА ПРАЦА

— Што ў цябе новага, як жывеш? — пытае сустрэўшага сябру другі.

— Пішу і жыву.

— Журналістыка, літаратура?

— Не, рэгулярна пішу да бацькі... і прашу, каб прыслаў мне грошай.

### ЧАМУ Я ЖЫВЫ

Працуючы рэдактарам газеты, Марк Твэн атрымаў па пошце даволі слабыя вершы пад загалоўкам: «Чаму я жывы?»

Вяртаючы рукапіс, Марк Твэн напісаў аўтару: «Таму, што вершы паслалі па пошце, а не прынеслі ў рэдакцыю самі».

## Думкі ясвы і апалоніка

**Сілач, які скрыгоча зубамі, паказвае сваю слабасць.**

*

**Чалавек, які прывык да паракання, нават з вялікай радасці стогне.**

*

**Хутчэй можна прывыкнуць да добрага, чым ад дрэннага адзвычаіцца.**

*

**Чалавек, які бачыць свае ўласныя памылкі, надта блізкі ідэалу.**

*

**Той, хто вельмі многа гаворыць, не можа нічога цікавага сказаць.**

### СУМ

— Чаму ты такі сумны? — пытае адзін прыяцель другога, сустрэўшыся з ім на вакзале.

— Ды вось жонка едзе на месяц да сваякоў.

— Няўжо гэта цябе так устрывожыла?

— Ды што ты! Калі ў мяне будзе вясёлы твар, яна проста нікуды не паедзе.

### НЕЦІКАЎНАЯ

— Ты ведаеш, дзе я здабыў гэтыя грошы для твайго новага купальнага касцюма?

— Ты ж ведаеш, дарагі, што я ніколі не была цікаўнай, — далікатна адказвае жонка.

### РАЎНІВЕЦ

Муж і жонка спыніліся перад вітрынай магазіна.

— Гэты касцюм цудоўны, — сказала жонка. — Ён мне так спадабаўся!..

— Тады хутчэй ідзем адсюль, — сказаў муж. — Ты ведаеш, што я вельмі раўнівы.

— Вамі цікавіцца адзін брунет...

### ЦУДОЎНЫЯ ВАЛАСЫ

— У вашай цешчы цудоўныя валасы. Яна, відаць, вельмі глядзіць за імі.

— Яшчэ б! Кожную ноч яна замыкае іх у шафе.

### ЁН ДУМАЎ

— Сынок, што ты нарабіў! Ты разбіў дарагую статуэтку, якой больш за трыста год!

— А я спалохаўся, тата. Думаў, што яна новая.

Без слоў.

### НАВАТ НЕ ЗІРНУЛА

— Ты звярнула ўвагу на тую брунетку ў трамваі?

— Гэта тая, з зялёнымі вачыма, у чорным касцюме, з чырвонай сумачкай і ў чырвоных туфлях?

— Ага.

— Падумаць толькі, я на яе нават не зірнула.

### Песні па заяўках

Па просьбе Міры Сержан, Крысі Бяленя з Гарадка, Беластоцкага павета і Лідзіі Вышкоўскай з Кожына, Бельскага павета, змяшчаем польскую песню п.з.

## MAŁY MIŚ

ad libitum

Raz u-cie-kły z po-zła-ca-nej klat-ki czte-ry ma-łe
Trzy niedźwiadki re-ty co za he-ca! Ba-bę Ja-gę
plu-szo-we nie-dźwia-dki, je-den łkał, wra-cać chciał
wsa-dzi-ły do pie-ca te-raz wieść i-dą nieść,
do ciem-ne-go la-su wejść się bał - - -.
już nie bę-dzie Ba-ba Ja-ga dzie-ci jeść - - -.

tempo moderato

Ma-ły miś do la-su bał się iść
Cie-mny las -, tam wil-ki zje-dzą nas
ze stra-chu drżał jak liść plu-szo-wy miś - - -.
wra-caj-my bra-cia wraz do-pó-ki czas - -.
Nie bój się wil-ki nie zje-dzą cię bę-dzie-my
bro-nić cię -, nie da-my się -. Śmia-ło wprzód
po won-ny sło-dki miód ja-go-dy i-stny cud
u-ży-jem w bród - -. w bród - -, w bród - -.

# Курёзы

### Выгода

Парыжанкі купляюць за месяц васемнаццаць тысяч пар штук веек. А нядаўна ў Парыжы быў нават распрацаваны спецыяльны клей для іх наклейвання, дзякуючы чаму уладальніцы штучных веек змогуць бязбоязна плываць, ныраваць і плакаць.

### Звялі рахункі

Спачатку ўзнікла непаразуменне: малады амерыканскі паэт і драматург Джоўнс, аддаючы сваю новую п'есу ў авангардысцкі часопіс «Іст сайд рэвю», разлічваў атрымаць ганарар у памеры 100 долараў. Рэдактар часопіса Шэрбель думаў інакш — ён вырашыў, што аўтару будзе дастаткова ўбачыць п'есу апублікаванай.

Рэдактар хутка, так сказаць, на сваёй уласнай спіне адчуў, што не меў рацыі. Гэта здарылася на канцэрце, дзе Джоўнс і яго двое дружбакоў накінуліся на рэдактара, пачалі яго біць, а заадно выцягнулі з кішэні кашалёк з 40 доларамі. У парадку, відаць, пагашэння доўгу.

Шэрбель намерваўся распачаць судовую справу, але хтосьці з прыхільнікаў Джоўнса вярнуў 40 долараў. Інцыдэнт быў вычарпаны.

## Смяёмся з намі

Утапіцца можна і ў студні з найчысцейшай вадою.